## 28 лістапада пленум ГП БГКТ

**28 кастрычніка г.г. адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. На ім быў абмеркаваны і зацверджаны даклад на пленум ГП БГКТ, які адбудзецца 28 лістапада г.г. Пленум прысвечаны будзе працы гурткоў у святле пастаноў VIII з'езду БГКТ.**




# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 46 (1081) БЕЛАСТОК 14 ЛІСТАПАДА 1976 г. ЦАНА 60 гр.




## Мелодыі Шапэна

*Я іду за музыкай Шапэна,*
*Адкрываю радасці сама:*
*Скачуць іскры Віслы*
*белапеннай,*
*І мазурку скача ўся карчма.*

*Пэўна, ў дзіўных клавішах*
*раяля*
*Ёсць валынкі,*
*скрыпкі,*
*кантрабас.*
*Глянь, абэрак пары заскакалі,*
*Хто ж уседзець можа ў гэты час?*

*Раптам чую рэха барабана —*
*І няма канцэртных, мірных*
*сцен!*
*З рытмаў нечаканых,*
*палымяных*
*Малады выростае Шапэн.*

*Гэта ўжо не музыка, а цуда,*
*Болей струнам болю не стрываць:*
*Рытмы Гераічнага эцюда*
*Над варшаўскай восенню грымяць.*

*Ён каноны разрываў упэўнена*
*Выбухамі гора і трывог.*
*Там гучала музыка Шапэна,*
*Дзе Міцкевіч гаварыць не мог.*

*А галовы царскія не чулі,*
*Што ў мазурках тоіцца ўдар.*
*Што ў накцюрнах гневаліся кулі,*
*Ў паланезах — грозны марш фанфар!*
*У Парыжы гулкім*
*і ў Наане*
*Сніў ён Польшчу,*
*звон яе лугоў.*
*Ён дайшоў бы ўласнымі*
*нагамі*
*Да крутых зялёных берагоў!*
*Толькі б зноў пачуць,*
*як на радзіме*
*Журацца сялянкі*
*і пяюць,*
*Толькі б зноў сустрэцца з*
*дарагімі,*
*Мову незабыўную пачуць!*
*І таму*
*тужлівымі вачамі*
*Углядаўся ён, трывожны, ўдаль.*
*І таму*
*бяссоннымі начамі*
*Морам бушаваў яго раяль.*

**Эдзі Агняцвет**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "Ніве"

**На відным месцы ● У Ніны Цыванюк ● У палоне забабонаў ● Гродзенскі медыцынскі ● Гаворкі Славяншчыны ● Незабыўная сустрэча ● Адказ Маланцы ● Міхась Зарэцкі ● На практыцы ў ліцэі ● Навошта кідаць у сваё акно? ● Весткі з Гарадка, Нараўкі, Бельска, Белавежы, Міхалова, Гайнаўкі, Ціліпак, Ставішчаў, Нарвы, Тафілаўцаў, Чэхаў Арлянскіх, Шудзялава, Дубіч Царкоўных ● Калі сніцца злодзей ● Песня „Myśmy są wojsko".**



*Белавежа. Будынак ляснога тэхнікума.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

## АДКРЫЦЦЁ НОВАГА СЕЗОНА

„Добры пачатак — справы палавіна", — кажа народная прыказка. Яе вымову можна поўнасцю аднесці да вельмі ўдалай урачыстасці адкрыцця 1976/77 культурна-асветнага сезона ў дзейнасці Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Увечары 23 кастрычніка г.г. зала клуба ў будынку ГП БГКТ запоўнілася прыбыўшымі з розных мясцовасцей нашага ваяводства, а таксама з Варшавы і Беластока, вядучымі дзеячамі нашай арганізацыі, яе актывістамі, удзельнікамі мастацкай самадзейнасці, літаратарамі і журналістамі. Сваёй прысутнасцю прыдалі бляску вечарыне дырэктар аддзела ўнутраных спраў Ваяводскага ўпраўлення **Уладзіслаў Канстанчук,** прадстаўнік Ваяводскага камітэта ПАРП **Аляксандр Сеўка,** прадстаўнікі арганізацый і ўстаноў, з якімі звязвае БГКТ цеснае супрацоўніцтва. І бадай таму, што сабраліся разам людзі, якіх натхняе супольная ідэя грамадскай дзейнасці для дабра нашай культуры і асветы, увесь вечар панавала свойская сямейная атмасфера. Яе цеплыню і сардэчнасць узмацняла адчуванне ўсіх, што мінулы год быў адным з самых плённых на ніве дзейнасці нашай арганізацыі.

Гэтае пачуццё належна выкананай, хоць і нялёгкай працы пацвердзіў у сваім выступленні старшыня ГП БГКТ **Мікалай Самоцік.** Падкрэсліў ён, што ў нашай арганізацыі ў мінулым годзе была праведзена важкая ідэйная і арганізацыйная работа. Перад VIII з'ездам БГКТ у кожным гуртку прайшлі справаздачна-выбарныя сходы, на якіх абмяркоўваліся дырэктывы і матэрыялы VII з'езда ПАРП, а таксама дасягненні БГКТ і „Нівы" за XX год іх дзейнасці. Гэтыя сходы заўважальна ажывілі дзейнасць гурткоў, а ўсёй нашай арганізацыі прыбыло каля тысячы но-

Працяг на стар. 4

## НАВАСАДАЎСКАЯ ФАБРЫКА МЯСА І ХЛЕБА

Калі пасля IV пленума Цэнтральнага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі пачалася ў нашай краіне ўсенародная гутарка аб тым, як павялічыць пастаўку харчоў, ды асабліва мяса і мясных вырабаў, я перш за ўсё падумаў аб Навасадах. Тут за вёскай, схаваўшыся за маладым хвойнікам, на пясчаным пустыры раскінулася велізарная свінагадоўчая ферма, гаспадаром якой з'яўляецца мясцовая спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў.

— Што ў вас новага, цікавага? — звяртаюся да Сяргея Плевы, які кіруе гэтай фабрыкай мяса і хлеба.

— Што новага? Цікавага? — у задуменні паўтарае ён мае пытанні. — Наш тавар заўсёды аднолькавы — свініна і збожжа. Адно толькі стараемся, каб з кожным годам было яго ўсё больш і больш.

— І як вам гэта ўдаецца?

— Мяркуйце самі, — кажа кіраўнік і запрашае на прагулку па яго свінячым каралеўстве, межы якога пашыраюцца з кожным годам.

Гайнаўская і беластоцкая прамысловасць, як магутныя насосы, безупынку выцягваюць людзей з навакольных вёсак. Старэнькія бацькі, каб забяспечыць восень свайго жыцця, аддаюць гаспадаркі ў замен за пажыццёвую пенсію. Абавязак загаспадарыць пакінутую зямлю прыпадае тут спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў. Такім чынам у навасадаўскай СКР назбіралася ўжо 470 га зямлі.

— Гэта наш базіс для развіцця гадоўлі, — кажа кіраўнік Плева. — Мы не можам толькі азірацца на дзяржаўныя запасы кармоў. Ужо цяпер абяспечваем свае патрэбы ў звыш 70 працэнтах уласнымі кармамі. Асабліва дбайна адносімся да ўсялякіх зялёных кармоў. Адзін кілаграм зялёнкі з азімага паплёну каштуе ў нас ледзь 20-30 грошай, гэта самы танны корм.

На панадворку, у хлеўнях, пры машынах мітусяцца людзі. Разам звыш 60 чалавек, у тым ліку аж 30 трактарыстаў. Працавіты калектыў. Анатоль і Юрка Балтрамюкі — з адной сям'і. Юрка ў мінулым сезоне разам з даверанымі яму трактарам і снопавязалкай выпрацаваў амаль 200 гадзін. Гэта многа.

(Працяг на стар. 4)

### У НАШЫХ САМАДЗЕЙНІКАЎ



Кадр з п'есы „Агледзіны" Бондарава ў выкананні беластоцкіх самадзейнікаў.

**Фота Я. Цялушэцкага**




# Полымя над Басконіяй

Па закліку палітычных і прафсаюзных арганізацый працоўныя Краіны Баскаў правялі ў канцы верасня ўсеагульную забастоўку. Больш як паўмільёна рабочых, служачых, рыбакоў адмовіліся выйсці на работу і ўшанавалі памяць пяці баскскіх юнакоў, пакараных смерцю ў мінулым годзе франкісцкімі ўладамі. У правінцыях Гіпускоа, Біскайя, Алава і Навара закрыліся ўсе фабрыкі і заводы, муніцыпальныя ўстановы, не дзейнічалі банкі і магазіны. Абязлюднелі порты, спыніліся заняткі ў школах і вышэйшых навучальных установах. У розных гарадах баскскіх правінцый прайшлі масавыя маніфестацыі і мітынгі. Іх удзельнікі запатрабавалі неадкладнага аднаўлення дэмакратычных правоў, амністыі ўсім палітзняволеным, дазволу палітэмігрантам вярнуцца на радзіму, легалізацыі ўсіх палітычных і прафсаюзных арганізацый.

Праблема баскаў існуе ўжо не першы год. Прыйшоўшы да ўлады 36 гадоў назад, дыктатар Франка ліквідаваў аўтаномію Краіны Баскаў і ўзяў курс на гвалтоўную „іспанізацыю“ яе насельніцтва. Старажытная культура і мова гэтага народа падвяргаліся жорсткім ганенням. Было забаронена навучанне і выдаванне кніг на мясцовай мове, закрыты нацыянальныя газеты і часопісы.

Вастрыё рэпрэсій улады накіравалі супраць прыхільнікаў сацыяльных і палітычных перамен, і перш за ўсё супраць баскскага пралетарыяту. За сорак без малога гадоў франкісцкай ночы тысячы змагароў былі схоплены агентамі дыктатара, пасаджаны ў казематы або сасланы на катаргу. Аднак, стойка вытрымаўшы ўсе выпрабаванні, многія патрыёты-антыфашысты вырваліся з засценкаў і сёння зноў знаходзяцца ў першых радах барацьбітоў за новую, дэмакратычную Іспанію.

Аб'ектам асабліва жорсткага тэрору стала патрыятычная Асацыяцыя барацьбітоў за свабоду Краіны Баскаў (ЭТА). „Эўскадзі та аскатусана“ — такая яе назва на баскскай мове — з моманту свайго стварэння нязменна выступала за звяржэнне франкізму і прадастаўленне аўтаноміі Краіне Баскаў. У яе радах нямала мужных, стойкіх і загартаваных байцоў, якія прайшлі суровую школу барацьбы ў падполлі, вытрымалі нечалавечыя катаванні ў засценках Франка. Аднак дзейнасць ЭТА ўскладняецца тым, што ў ёй няма поўнага адзінства па пытанню аб метадах барацьбы з франкісцкай спадчынай. Частка актывістаў ЭТА і пасля смерці дыктатара спрабуе змагацца з цяперашнім рэжымам шляхам адкрытага тэрору. Але яны ў меншасці. Большая частка членаў гэтай арганізацыі ў цесным супрацоўніцтве з камуністамі ўзнімаюць на бой за дэмакратычную Іспанію шахцёраў і металургаў, карабелаў і машынабудаўнікоў.

Мадрыдскія ўлады прыкладаюць нямала намаганняў да таго, каб ізаляваць барацьбу баскаў ад руху іншых антыфашысцкіх сіл. Аднак гэтыя спробы дарэмныя. Рашэнне ўрада А. Суарэса аб'явіць у воінскіх часцях, расквартараваных у Краіне Баскаў, становішча павышанай баявой гатоўнасці выклікала справядлівы гнеў і рашучы пратэст шырокай грамадскасці Іспаніі. У знак салідарнасці з патрабаваннямі баскаў каля пятнаццаці тысяч рабочых і служачых пошт і тэлеграфа 34 з 50 правінцый Іспаніі аб'явілі забастоўку.

Пазіцыя камуністаў у адносінах да праблемы баскаў зразумелая і недвухсэнсоўная. Гаворачы аб шляхах вырашэння нацыянальнага пытання ў будучай дэмакратычнай Іспаніі, Далорэс Ібаруры ў адной са сваіх апошніх работ піша: Іспанскія камуністы лічаць, што „пасля франкізму палітычная будучыня краіны не можа быць простым вяртаннем да Іспаніі 1931 года, а павінна быць арганізацыяй федэратыўнай Іспаніі, у якой усе народы і вобласці, што валодаюць бясспрэчнай спецыфічнасцю, зноў набудуць сваю нацыянальную або рэгіянальную індывідуальнасць з усімі правамі, якія вынікаюць з гэтага“.

**Луіс Севано**
**(АДН)**


р. 27844
Год 1. Вильни 17/30 листопада (ноября) 1906 г. № 2.
Наша Нива
ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА З РЫСУНКАМИ
ВЫХОДЗИЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ русками и польскими литэрами.
Адрес редакцыи и администрацыи: Вильня, Больша Погулянка д. № 17.
Цэна асобнаго нумэру 5 кап.

*Наш каляндар*

## З ВЕРАЙ У СВЕТЛУЮ ПРЫШЛАСЦЬ

„Калі ў памятны 1905 год зрабілася завіруха, калі ў Расіі ў кожнага чалавека будзіцца душа да новага жыцця, да новага шчасця, — то і ў беларуса будзіцца стала пачуццё свайго „я“, стала лунаць доўга дрэмлючая думка, што і мы — людзі“, — пісаў Янка Купала ў 1913 годзе ў „Нашай ніве“, даючы трапны адказ на пытанне, якія былі крыніцы паўстання беларускага пісьменніцтва ў пачатку XX стагоддзя.

Калі 1 верасня 1906 г. у Вільні пачала выходзіць першая беларуская легальная газета „Наша доля“, царскія чыноўнікі сустрэлі яе ў штыкі і за бунтарскі змест і за беларускую мову на 6 выйшаўшых яе нумароў канфіскавалі аж 5. Для тагачаснай беларускай інтэлігенцыі, якая ўзяла на сябе ўсе непамерныя цяжкасці стварыць легальны беларускі друк, стала ясна, што дні „Нашай долі“ палічаны, і пачала рабіць намаганні, збіраць дабравольныя складчыны і ахвяраванні, каб адкрыць новую беларускую газету. І вось **10 лістапада 1906 года выйшаў у свет першы нумар другой беларускай легальнай газеты „Наша ніва“.** У студзені 1907 г. „Наша доля“ рашэннем Віленскай судовай палаты канчаткова ліквідавана, і тады „Наша ніва“ на доўгі час стала адзінай трыбунай усіх тых інтэлектуальных сіл Беларусі, якія, як толькі змаглі, аддавалі ўласныя таленты на службу свайму падняволенаму народу.

Абапіраючыся перш за ўсё на просты беларускі люд і знаходзячы маральную падтрымку прагрэсіўнай рускай і польскай творчай інтэлігенцыі, „Наша ніва“ з бегам часу пачала адыгрываць вядучую ролю ў абуджэнні нацыянальнай свядомасці беларускага народа. На яе старонках развівалася і даспявала творчасць такіх волатаў нашага роднага беларускага слова і грамадскага дзеяння, як Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч, Ц. Гартны, З. Бядуля, А. Пашкевіч-Цётка і шэрагу іншых — самага цвету нашай літаратуры першай паловы XX стагоддзя. Амаль цэлыя 9 год, аж да 7 жніўня 1915 г., калі пад Вільню падышлі войскі нямецкага кайзера і ўжо не было магчымасці выдаваць газеты, штотыдзень несла „Наша ніва“ пад саламяныя стрэхі вёсак і мястэчак беларускай зямлі розныя весткі, артыкулы аб балючых для працоўных справах, папулярна-навуковыя публікацыі, вершы, апавяданні, сакавіты гумар. І знаходзіла яна цёплы водгук па ўсёй Беларусі. Сотні карэспандэнтаў дасылалі для яе цікавыя весткі аб жыцці ў сваіх родных ваколіцах, у тым ліку і таямнічыя „Янка а па бацькаві Кастусёў“ ды „Грыбок“ і „Каршун“ з Гарадка, „Сваяк з-пад Крынок“, „Ю. М.“ з Супраслі і іншыя з розных мясцовасцей тагачаснай Беласточчыны.

І споўніла „Наша ніва“ сваю велічную місію ў гісторыі народа...

Іменна гэта меў на ўвазе Я. Купала — апошні галоўны рэдактар „Нашай нівы“ — калі ў 1940 годзе пісаў: „Мы былі разам з народам, гнеўна бунтавалі разам з ім, верылі ў будучыню. Кропля таго вялікага святла, якое цяпер напаўняе ўсё наша жыццё, свяціла нам з будучыні тады, надавала бадзёрасці і веру ў лепшую светлую прышласць“. (іс)



**ПОМНІКІ ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ.** Помнік загінуўшым воінам і партызанам у Бераставіцы Гродзенскай вобласці.

## УЗНАГАРОДЫ

З нагоды адкрыцця новага культурна-асветнага сезона шэрагу дзеячам і працаўнікам Беларускага грамадска-культурнага таварыства і тыднёвіка „Ніва“ прызнаны ўзнагароды.

Міністэрства культуры і мастацтва прысвоіла званне „Заслужаны дзеяч культуры“ сакратару рэдакцыі тыднёвіка „Ніва“ **Адзе Чэчуга** і мастаку-афарміцелю нашага часопіса **Стэфану Рыбі.**

Прэзідыум Галоўнага праўлення БГКТ за заслугі для нашай арганізацыі ўзнагародзіў памятным медалем „XX год БГКТ“ **калектыў працаўнікоў рэдакцыі „Ніва“**, а таксама індывідуальна наступныя асобы: **А. Амбражэй, М. Гайдука, У. Куршаля, А. Мартыновіча, К. Масальскага, Н. Мушынскую, Г. Мялешка, С. Трахімюка, К. Хлябіча, Н. Цыванюк і С. Шыманюка.**

Дыпломы з падзякай за самаахвярную дзейнасць у радах нашай арганізацыі Прэзідыум ГП БГКТ прызнаў наступным асобам: **М. Гайдуку, К. Масальскаму, Н. Мушынскай, І. Паўлючук, Я. Рашкевічу і Н. Цыванюк.** (іс)




**Sobota — 13.XI.** 6.00 RTV Szk. Śred. Mat. 6.30 Biolog. 7.00 Tech. Rol. Fiz. 7.30 Upr. rośl. 8.50 Red. szk. zap. 9.00 Koncert Gal. Fest. Zesp. Pieśni i Tańca „Zielona Góra" 76. 10.00 Dla szkół: Zoolog. kl. VII Robaki pasożyt. 10.30 Studio 2.

≈≈≈

**Niedziela — 14.XI.** 6.30 Tech. Rol. Fiz. 7.00 Upr. rośl. 7.30 Kurs Rol. 8.05 Przyp., radz. 8.15 Now. w domu i zagr. 8.40 Sport dla wszyst. 8.45 Sport. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 W starym kinie. 12.00 Dziennik. 12.20 Piórkiem i węglem. 12.45 75-lecie Filharmonii Narod. 13.55 Dla dzieci. 14.50 Między nami jaskiniowcami — film anim. 15.15 Los. Duż Lot. 15.30 Wielkie bitwy historii — Bitwa pod Orleanem — film dok. 16.30 Sport. 18.00 Tele-Echo. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.40 Bajka dla dor. 20.50 Wojna i pokój — film ser. 21.40 L. Kydryński przedst. Zizi Janmaire. 22.40 Sport.

≈≈≈

**Poniedziałek — 15.XI.** 12.45 RTV Szk. Śred. J. pol. Lit. sarmacka. 13.25 Fiz. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Zwierzyniec. 17.40 Siedemnaście mgnień wiosny — film ser. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 Teatr TV: J. Szaniawski „Most". 21.50 Operowe qui pro quo. 22.55 Dziennik.

≈≈≈

**Wtorek — 16.XI.** 6.00 RTV Szk. Śred. J. pol. Lit. sarmacka. 6.30 Fiz. 9.00 Dla szkół: J. pol. kl. VI W. Katajew. Samotny biały żagiel. 10.00 Wojna i pokój — film ser. ang. 12.00 Dla szkół: Hist. kl. VIII W latach kryzysu i depresji. 13.45 Tech. Rol. J. pol. B. Prus. 14.30 Mech. rol. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Przyp., radz. 17.05 Studio Mł. 17.55 Świat i Polska. 18.30 Komicy niemego ekranu — film arch. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 Filmy Bergmana: Jak w zwierciadle. 22.15 Dziennik.

≈≈≈

**Środa — 17.XI.** 6.00 Tech. Rol. J. pol. B. Prus. 6.30 Mech. rol. 7.30 Jak w zwierciadle — film fab. szw. 9.00 Dla szkół: Chem. kl. VII Wróg metali. 10.00 Hist. kl. V Złoty Wiek Aten. 11.05 Fiz. kl. VIII Elektrony. 12.45 Chem. 13.25 Tech. Rol. Upr. rośl. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.30 Los. Mał. Lot. 17.55 Lekt. Pegaza. 18.10 Sport. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 Rodzina Lubowimych — film fab. radz. 22.10 Dziennik. 22.25 Sport.

≈≈≈

**Czwartek — 18.XI.** 6.00 RTV Szk. Śred. Chem. 6.30 Tech. Rol. Upr. rośl. 9.00 Dla szkół. J. pol. kl. I lic. Pieśni Czarnoleskie. 10.00 Rodzina Lubowimych — film fab. radz. 13.45 Tech. Rol. Fiz. 14.30 Upr. rośl. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Przyp., radz. 17.05 Dla mł. widzów. 18.10 Poligon. 18.30 Konsylium cz. I. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 Teatr Sensacji — Morderstwo odkrywa prawdę. 22.15 Pegaz. 23.00 Dziennik. 23.15 Konsylium cz. II.

≈≈≈

**Piątek — 19.XI.** 6.00 Tech. Rol. Fiz. 6.30 Upr. rośl. 9.00 Dla szkół: Geogr. kl.V — Nad Morzem Śród. 10.00 kl. VI W Tatrach. 11.05 Wych. ob. kl. VII Now. w zakładzie prod. 12.45 RTV Szk. Śred. Mat. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Pora na Telesfora. 17.50 Dla mł. widzów. 18.00 Inf. Wyd. 18.10 Z serii: Opowieści o tajemnicach morza — odc. I pt. Wypad w głębinę. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 Noc w mieście — film TVP. 21.20 Teatr Komedii: M. Weliczkow — Tak piękne jak prawdziwe. 22.10 X Y Z cz. I. 22.50 Dziennik.




**Piątek 12.XI** — 17.15 Hokej. Czechosł. — ZSRR. 2 i 3 terc. 19.30 Koncert. 20.30 Filmy anim. dla dor.

**Sobota 13.XI** — 17.20 Koncert zesp. pieśni i tańca MWO. 17.45 Film fab. ser. 19.30 Hokej. Czechosł. — ZSRR.

**Niedziela 14.XI** — 11.30 Film fab. 14.55 Filmy anim. 15.30 Piosenka — 76. 16.15 Klub film. 17.20 Film fab. ser. 19.30 Koncert. 20.15 Puchar europ. mistrz. w p. wodnej. Półfinał.




**Białowieża** Śluby kawalerskie — radz. 16—17. To niemożliwe — radz. 18—19. Siedem nianiek — radz. 20—21.

**Bielsk Podl.** Premia — radz. 15—16. Ta jedyna — radz. 17—18.

**Czeremcha** Aleksander Newski — radz. 16—17. Normandia Niemen — radz. 20—21.

**Czyże** Rezydent wywiadu — radz. Porucznik jazdy — radz. 17—21.

**Dubicze Cerkiewne** Po latach — radz. Nikt nie chciał umierać — radz. 17—21.

**Gródek** Śluby kawalerskie — radz. 20—21.

**Hajnówka** Wąwóz zapomnianych baśni — radz. 15—16. Premia — radz. 17—18. Kalina czerwona — radz. 19—20. Płonąca tajga — radz. 21.

**Kleszczele** Gracz — radz. 16—17. Wołga—Wołga — radz. 18—19. Premiera — radz. 20—21.

**Michałowo** Matczyne serce — radz. 16—17. Jakow Bogomołow — radz. 18—19. Brylantowa ręka — radz. 20—21.

**Mielnik** Ostatni lot — radz. 17. Ogień na oceanie — radz. 20—21.

**Milejczyce** Gwiazdy w morzu — radz. 16—17. Tajemniczy mnich — radz. 18—21.

**Narew** Człowiek bez paszportu — radz. Wiryneja — radz. 17—21.

**Narewka** Dzieci Don Kichota — radz. Staroświecki dramat — radz. 17—21.

**Nurzec** Szach królowej brylantów — radz. 16—17. Dwója z wychowania — radz. 18—19. Afonia — radz. 20—21.

**Orla** Rzeka płynie dla zakochanych — radz. Chewsburska ballada — radz. 17—21.

**Rajsk** Mroźny poranek — radz. Ostatni lot — radz. 17—21.

B.Z.Graf. Zam. 2613 F-4

# У ПАВІЛЬЁНЕ З СУВЕНІРАМІ

Выехаць з Белавежы, не купіўшы нейкую памятку, — гэта не змяшчаецца ў галаве амаль ніводнага экскурсанта ці турыста. Што ж, зусім зразумела. Самі, калі кудысьці паедзем, заўжды нейкую дробязь прывозім на памяць.

Павільён з сувенірамі быў адчынены ў Белавежы 10 чэрвеня 1973 г. па ініцыятыве кіраўніка мясцовага бюро ПТТК Уладзіслава Ляпруса. Спачатку прадавалі ў год тавару на 400-500 тыс., цяпер ужо на 700 тыс. Прадавалася б намнога больш, ды вытворцы не паспяваюць дастаўляць свае вырабы. Зрэшты, ПТТК моцна і не націскае на колькасць тавараў: лепш менш, затое лепш, лепшай якасці.

Калі ў прыватных ларках царыць халтура, у павільёне прапануюць вырабы, характарызуючыя нядрэнны мастацкі густ і творцаў. Увайшоўшы за дзверы крамы, невядома, на што спярша глядзець. У многіх з вуснаў вырываецца енк захаплення.

— Чаго прадаеце тут найбольш? — пытаю ў прадаўшчыцы Марыі Баланкоўскай, якая вядзе краму ад яе адкрыцця.

— Цяжка акрэсліць, — адказвае яна, — нішто ў нас доўга не залежваецца. Найбольшае запатрабаванне ёсць, бадай, на зуброў, выкананых у драўніне. Дастаўляюць іх нам звычайна Шума, Ахрымюк, Калмыкоў і Вашкевіч — тутэйшыя творцы. Іх зубры падабаюцца турыстам. Яны стаяць на паліцы ўсяго некалькі гадзін, хаця цэны розныя — ад 160 зл. да 2 тыс. зл. Таксама падабаюцца зубры, адлітыя ў гіпсе. Цана 45 зл. за штуку. Яны зусім падобныя на тых, што зроблены ў дрэве. Вырабляе іх В. Мінкевіч. Сапраўдны фурор выклікаюць вырабы з карэнняў дрэў С. Банаха (арыгінальныя падсвечнікі, абажуры, падстаўкі для кветак, вазачкі і інш.). Не менш папулярныя талеркі з наклеенымі кветкамі Гапановічавай з Беластока (цана 130-200 зл.). Многа прадаю розных прыгожых кулонаў, нашыйнікаў, брошак, драўляных шкатулак, гравюраў на дрэве або кары. Турысты часта купляюць таксама гліняныя збанкі („сівакі“) ганчара Л. Саласцюкевіча з Кляшчэляў. І нарэшце трэба ўспомніць пра зуброўку (дастаўляе яе нам прадпрыемства „Ляс“ з уласных плантацый), якую прадаю ў пучках па 4 зл. Яна ідзе ў вокамгненне.

Павільён з памяткамі размешчаны ў самым цэнтры Белавежы. Гэта таксама вялікі яго козыр.

Тэкст і фота
**Пятра Байко**


*У павільёне прадае Марыя Баланкоўская.*

**МІНІ-ІНТЭРВ'Ю СА ЗДЫМКАМ**

# Песня запаланіла



Гэтую размову з **Оляй Амельянчук** — сімпатычнай спявачкай з беларускага хору з Плёскаў — мне ўдалося правесці ў часе кароценькага перапынку паміж двума канцэртамі, што 10 кастрычніка 1976 г. давалі калектывы з Гарадка, Дубяжына і Плёсак у гайнаўскім Доме культуры „Гурнік“.

— Калі вы пачалі спяваць?

— Яшчэ ў пачатковай школе. Заахвоціла нас, вучаніц VIII класа, настаўніца спеваў А. Мартынюк. Спачатку выступілі мы на павятовым аглядзе конкурсу „Беларуская песня“ для школьнікаў, потым на павятовых і раённых элімінацыях конкурсу на савецкую песню. І песня нас запаланіла. Пасля заканчэння пачатковай школы я стала спяваць у калектыве, якім кіравала В. Леанюк. Якія ж цудоўныя выступленні мы давалі! Аж прыемна ўспомніць. Потым насталі для нас цяжкія часы: не было кіраўніка і спявалі мы, як умелі і што ўмелі. Цяпер жа нам з нашым кіраўніком Пятром Нявінскім працуецца вельмі добра.

— І з якімі вынікамі?

— Нядрэннымі. Дзе ўжо мы толькі не выступалі! Усю Беласточчыну з песнямі аб'ехалі ды і ў конкурсах „Беларуская песня“, савецкая песня, калядная, проціпажарная і іншых прымалі ўдзел. І ўзнагарод перабралі таксама нямала: праігрывацель, міксер, млынок для кавы, сокавыжымалку, камплекты для торту і многа іншага. Але самай каштоўнай для нас узнагародай заўсёды было і ёсць задавальненне слухачоў ад нашага выступлення.

— Працуеце ці вучыцеся?

— І адно і другое. Працую разам з бацькамі на гаспадарцы, кантрактуем збожжа, гадуем кароў, свіней, авечак. Работы ёсць шмат, але я яе люблю. І школу сабе выбрала таксама ў гэтым жа кірунку: вучуся на завочным аддзяленні сельскагаспадарчага тэхнікума ў Бельску. Цяпер я ўжо на чацвёртым семестры. Навука ідзе добра. Найбольш люблю прадметы па сельскай гаспадарцы: вырошчванне сельскагаспадарчых раслін, гадоўлю жывёлы, а пабойваюся матэматыкі. Пасля заканчэння тэхнікума хацела б заняцца гадоўляй.

— Якіх спевакоў найбольш любіце?

— Перш за ўсё Анну Янтар, затым Ірэну Яроцкую, а сярод калектываў — чароўную „Аббу“ і савецкі „Поющие гитары“. Наогул люблю тых, хто спявае з пачуццём, з сэрцам, — сказала яна мне і пабегла на сцэну, бо якраз пачыналася выступленне плёскаўскага калектыву.

**Ігнат Снарскі**
Фота аўтара

# ХРОНІКА

■ Нядаўна на ўрачыстасці адкрыцця новага культурна-асветнага года ў Гайнаўцы дзеяч БГКТ Віктар Бура атрымаў грашовую ўзнагароду ад начальніка горада Анатоля Гінішта.

■ 19 кастрычніка на пасяджэнні праўлення гайнаўскага гарадскога гуртка (старшыня Васіль Сакоўскі) быў прыняты план працы на асенне-зімовы перыяд.

■ 22 кастрычніка ў памяшканні ГП БГКТ адбылася сустрэча з пяціасабовай дэлегацыяй дзеячоў культуры Гродзеншчыны на чале з начальнікам Аддзела культуры абласнога выканаўчага савета Аляксандрам Лысковым, якая цікавілася працай нашай арганізацыі.

■ 24 кастрычніка харавы калектыў з Дубяжына і эстрадная група з Плёсак пад кіраўніцтвам Пятра Нявінскага далі канцэрт у Міхалове і Трасцянцы.

■ 24 кастрычніка Галоўнае праўленне БГКТ для сваёй лектарскай групы арганізавала семінар на тэму „Сацыялістычная сям'я“. Даклад падрыхтаваў член Прэзідыума ГП Вінцук Склубоўскі.

■ Усе члены гурткоў БГКТ у Семяноўцы і Плянце (гміна Нараўка) у 100% аплацілі членскія складчыны за бягучы год.

**М. Х.**

# БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

У кнігарні імпартных выданняў у Беластоку, вул. Кілінскага 10, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

**Калодзежны Л.,** Аўсяны звон, 1975, стар. 128, цана 1 зл. 90 гр.

Першая кніжка апавяданняў і мініяцюр пісьменніка, асноўнай прафесіяй якога з'яўляецца прыкладное мастацтва. У яго творах чытач знойдзе каляровы свет фарбаў і арыгінальнасць падыходу да акружаючай рэчаіснасці.

**Тихомиров М. Н.** Древняя Русь, 1975, стар. 430, цана 21 зл.

Зборнік артыкулаў выдатнага савецкага гісторыка аб праблемах фарміравання і развіцця феадальных адносін у Старажытнай Русі, яе месцы і значэнні ў міжнародных адносінах таго часу і гісторыі рускага, украінскага і беларускага народаў. Асабліва варта звярнуць увагу на абшырнае даследаванне „Сялянскія і гарадскія паўстанні на Русі XI — XIII ст. ст.“.

Курган Славы, 1975 цана 3 зл.

Прыгожы фотаальбом з каляровымі здымкамі аб самым вядомым, манументальным помніку ў гонар перамогі савецкага народа над фашызмам. Помнік знаходзіцца каля Мінска.

Кнігарня ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні накіроўвайце па адрасу:
„Dom Książki“, 15-089 Białystok, ul. Kilińskiego 10.

(мг)

# Ці вы ўжо выпісалі „Ніву“ на 1977 год?

Дарагія чытачы, калі Вы яшчэ не выпісалі свой часопіс на 1977 год, зрабіце гэта неадкладна. Прыпамінаем, „Ніву“ можна выпісаць у пісьманосца, на пошце і ў „Руху“. Калі маеце нейкія цяжкасці з выпіскай на месцы (здараюцца такія выпадкі па-за Беласточчынай), дасылайце грошы чэкам на рахунак: RSW „PRASA—KSIĄŻKA—RUCH“ I Oddział Rejonowy w Białymstoku, ul. Kopernika 93, nr konta 5018-1094 NBP I Oddział Białystok.

Цана падпіскі: на квартал 7,20 зл; на паўгода — 14,40 зл; на год — 28,80 зл.

Можна таксама „Ніву“ выпісаць знаёмым за мяжу. Такую падпіску прымае RSW „Prasa—Książka—Ruch“ Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto PKO, nr 1531-71.

Цана падпіскі за граніцу вышэйшая за краёвую на 50%.

Дзякуем!

**Беларусіяна**

Беларусіяна

# Школа ў няволі

Юрый Туронак вядомы нашаму чытачу не толькі як актыўны дзеяч варшаўскага гуртка і навуковага гуртка БГКТ, але таксама як нястомны даследчык школьніцтва ва ўсходняй частцы Беласточчыны. Яго пяру належыць шэраг артыкулаў на гэтую тэму ў „Ніве“, а таксама „Нарыс развіцця школьніцтва на Беласточчыне ў перыяд 1773-1939 гг.“, які змешчан у „Навуковым зборніку“, выдадзеным у 1974 г. Беларускім грамадска-культурным таварыствам і Беластоцкім навуковым таварыствам.

Цяпер жа ў часопісе „Przegląd Historyczno-Oświatowy“ № 3 (73) за 1976 г. паявіўся артыкул Ю. Туронка **„Акупацыйная школьная палітыка ў Беластоцкай акрузе (1941-1944)“.** У ім аўтар знаёміць чытача з асноўнымі прынцыпамі асветнай палітыкі гітлераўскіх акупантаў на запалоненых усходніх землях з асаблівай увагай да Беласточчыны, дзе таксама абавязвала ўказанне Гімлера і Гітлера: *„Для ненямецкага насельніцтва Усходу не можа быць вышэйшых школ, як чатырохкласнае народнае вучылішча. Мэтай такой школы мае быць выключна: простае лічэнне сама болей да 500, напісанне прозвішча, павучанне, што божай воляй з'яўляецца быць паслухмяным немцам, сумленнасць, пільнасць і ветлівасць. Чытанне ўважаю неабавязковым“.* Але насельніцтва Беласточчыны, як толькі здолела, ратавала маладое пакаленне ад ператварэння яго ў цёмных і пакорлівых нямецкай „панскай расе“ нявольнікаў. Рознымі паўлегальнымі спосабамі арганізоўвала на свой кошт школкі, і дзякуючы ахвярнасці і адвазе настаўнікаў, што часта працавалі запаўдарма, дзеці і моладзь нелегальна атрымоўвалі значна вышэйшыя і глыбейшыя веды, чым прадбачвалі акупанты. Аўтар паказвае таксама і розныя змены ў гітлераўскай „асветнай“ палітыцы на нашых землях, між іншым, імкненні пасеяць варожасць паміж беларускім і польскім насельніцтвам.

Артыкул напісаны ў асноўным на ўспамінах настаўнікаў, якія вучылі ў часе акупацыі, вясковых актывістаў, што ўдзельнічалі ў арганізаванні навучання, былых вучняў старэйшых класаў. Абшырныя і падрабязныя табліцы, вельмі старанна апрацаваны матэрыял адносна крыніц. Усё гэта робіць артыкул Ю. Туронка каштоўным укладам у навейшую гісторыю школьніцтва на Беласточчыне. (іс)

# АД РОДНЫХ НІЎ

**ЧЫТАЙЦЕ „НІВУ“!**

*Як жа на свеце сумна было б,*
*Каб не хадзіла „Ніва“ кругом.*
*„Ніва“ на вёсцы, „Ніва“ у месці,*
*Чытаюць „Ніву“ старыя й дзеці.*

*Бо як патрэбнае кветкам сонца,*
*Патрэбна „Ніва“ нашым сэрцам.*

*У „Ніве“ крытыка, у „Ніве“ весці,*
*І як зварыці, як хочаш есці,*
*Усе Гаспадыня спосабы знае,*
*А сны Астрон табе разгадае.*
*Сэрцайка любага прызаве,*
*Звонкая песня ў неба ўзаўе.*

*„Ніву“ чытайце, з „Нівы“ спявайце,*
*Будзьце здаровы, „Ніву“ чакайце!*

*Тыдзень праходзіць, час уцякае,*
*„Ніва“ зноў ў хаце нас усіх вітае.*

*Каб не газета ды весткі новы,*
*То мы б забыліся роднае мовы.*
*А як абідна было бы жыці,*
*Каб роднай мовай не гаварыці.*

**Люба Саковіч,**
Юшкаў Груд



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

 

Пачатак на стар. 1

# АДКРЫЦЦЁ НОВАГА СЕЗОНА

вых членаў. Працавіта і плённа прайшоў VIII з'езд нашай арганізацыі, яго высока ацанілі партыйныя і дзяржаўныя органы нашай краіны. Правялі мы шмат самых разнастайных па формах, насычаных глыбокім ідэйным і выхаваўчым зместам культурна-асветных мерапрыемстваў. Прыгадаем, для прыкладу, хоць некаторыя з іх: навукова-папулярную сесію для вузкага кола спецыялістаў і шматтысячныя народныя фэстыны, літаратурны конкурс для жменькі „белавежцаў“ і папулярныя конкурсы „Беларуская песня“ для дарослых і моладзі з удзелам дзесяткаў выканаўцаў і сотняў слухачоў, урачыстыя пасяджэнні ў гуртках і чытальніцкі конкурс, у якім прыняло ўдзел болей дзвюх соцень чалавек і многа іншых мерапрыемстваў. Нашыя калектывы далі дзесяткі канцэртаў на розных урачыстасцях у вёсках, мястэчках і гарадах, літаратары — дзесяткі аўтарскіх спатканняў з чытачамі ў школах і вясковых клубах. Словам, гэта быў шчодры год. Такі ж размах у дзейнасці патрэбен нам і ў наступіўшым новым культурна-асветным сезоне. Адначасова з пашырэннем форм працы з папярэдніх год будзем уводзіць новыя мерапрыемствы, між іншым, дэкламатарскі конкурс для школьнай моладзі і конкурс па жывапісу для дарослых. Хочам таксама, каб у конкурсе „Беларуская песня“ прыняло ўдзел як мага болей народных спевакоў, якія яшчэ не выступалі ў ім. Большую актыўнасць павінны праявіць нашыя гурткі ў развіцці тэатральных калектываў. Патрэбна большая аператыўнасць і нашай лектарскай групы. Улюбёнасць у прыгажосць роднага беларускага слова, глыбокія веды па беларускай літаратуры, добрыя пастаноўкі п'ес, цікавыя даклады, захапляючыя вершы і апавяданні, прыгожыя карціны і любыя нашаму сэрцу песні — вось чаго чакаюць ад нас людзі і мы па меры нашых магчымасцей будзем імкнуцца задаволіць іх запатрабаванні.

Лагічным працягам выступлення было ўручэнне М. Самоцікам значнай групе актывістаў і ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці прызнаных ім Прэзідыумам ГП БГКТ памятных медаляў, адчаканеных у сувязі з XX-годдзем нашай арганізацыі, і спецыяльных падзячных дыпломаў. Яны — сімвал прызнання, высакароднай дзейнасці, сімвал, які людзі прынялі з асаблівай пашанай.

І вось у зале паліліся песні — беларускія, польскія, рускія, украінскія. Пераспеўваліся імі паміж сабою па-народнаму звычаю калектывы з Гарадка, Дубяжына, Беластока, бы „агулькамі“-вяснянкамі пераспеўваюцца дзяўчаты ў цёплы майскі вечар у сёлах недзе каля Нарвы ці Кляшчэляў. Чароўная гэта гульня! А ў перапынках паміж песнямі нашыя паэты Алесь Барскі і Віктар Швед дэкламавалі свае вершы і з цэлым сольным канцэртам выступіў Аляксандр Раманюк з Дубяжына. Потым дапазна танцавалі і моладзь і старыя.

Усё гэта плыло стыхійна і натуральна, прывольна і заканамерна, як уся культурна-асветная дзейнасць Беларускага грамадска-культурнага таварыства, якой на гэтым вечары давалася высокая ацэнка за мінулы год і адкрываўся добры пачатак для новага сезона.

**І. Снарскі**

## ДАРОЖНЫЯ ПАРТРЭТЫ



*І малыша зацікавіў макет сучаснай аборы на сельскагаспадарчай выстаўцы.* *Фота Я. Цялушэцкага*

## НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

### ВЫКЛІК УСЯМУ СВЕТУ

Стаер з Аўстраліі Джордж Падон кідае выклік любому лёгкаатлету свету: ён згодны памерыцца з ім сіламі на дыстанцыі, даўжэй за якую не прабягаў чалавек. Падон прапанаваў правесці забег вакол Аўстраліі даўжынёй у 19200 кіламетраў, пачаўшы яго ў Мельбурне ў маі 1977 года. Каб пакрыць такую вялікую адлегласць, піша газета „Геральд“, спатрэбіцца каля васьмі месяцаў.

Цяпер 52-гадовы спартсмен трэніруецца, прабягаючы штодзённа ў сярэднім 35 кіламетраў. „Не магу ўявіць, хто мог бы перамагчы мяне“, — заявіў ён.

## Навасадаўская фабрыка мяса і хлеба

(Працяг са стар. 1)

— А іх маці, — інфармуе кіраўнік, — Анастасся Балтрамюк, таксама цесна звязалася з намі, бо падпісала яна шматгадовую ўмову на пастаўку парасят для нашай фермы. У год купляем ад яе каля 200 парасят, падкормленых больш-менш да 40 кг жывой вагі.

Гэта тут афіцыйна называецца кааперацыяй. Дае яна падвойную карысць. СКР мае гарантаваны жывы матэрыял для далейшага адкорму ў прамысловых маштабах, а вясковы гадоўца не абы-які даход, бо пры цяперашніх цэнах за адно парася гаспадар бярэ каля 2 тысяч злотых, а за 200 штук...

У даўжэзных хлеўнях аж кішыць ад крыклівых парсюкоў. Цяжка палічыць, колькі іх тут. Вядома толькі, што ў мінулым, значыць у 1975 годзе, з навасадаўскай фабрыкі мяса паступіла на бойню 134 тоны жывой масы. А ў гэтым годзе такую ж колькасць свіней даставілі яны ўжо на працягу ледзь шасці месяцаў.

—А ў недалёкай будучыні, — кажа кіраўнік, — будзе яшчэ больш, бо да канца 1980 года пабудуем тут яшчэ чатыры новыя хлеўні.

Далучаецца да нас Пётр Лапінскі. За ім адзінаццацігадовы вопыт працы ў Навасадах. На яго вачах здзяйсняліся тут усе перамены: ад сельскагаспадарчага гуртка з невялікім запасам тэхнікі, праз МБМ і да цяперашняй СКР з яе жывёлагадоўчым размахам і адкрытымі планамі на будучыню.

Пятра Лапінскага, які цяпер з'яўляецца намеснікам кіраўніка, ведаюць тут усе і ён таксама ўсіх ведае, бо гэта чалавек з адкрытым сэрцам на справы іншых людзей. Радны гайнаўскай гміннай рады і актывіст мясцовага гуртка ЗСЛ. Так пра яго гаворыць кіраўнік Плева. А яшчэ дадае, што Пётр Лапінскі заваяваў у рабочага калектыву сапраўдны аўтарытэт і давер. Пытаю яго, як гэта здарылася, а ён замест адказу на маё пытанне, гаворыць аб патрэбах сваіх сяброў па працы.

— Мы тут за вёскай прадукуем хлеб і мяса, — кажа ён. — Праца ў нас цяжкая. Прыдаўся б нам нейкі спажывецкі кіёск. Звярталіся мы па гэтай справе ў гайнаўскі ГС. На жаль, без выніку. Добра было б таксама, каб ПКС ля нашай базы наладзіў прыпынак. Да нас на работу многа людзей прыязджае з навакольных вёсак. Навошта ім ісці так далёка да прыпынку, калі аўтобус мог бы спыняцца ля самай брамы, дзе яны працуюць.

Гэта, так мне здаецца, зусім памяркоўныя патрабаванні, бо ў навасадаўскай СКР людзі сапраўды цяжка працуюць, асабліва восенню і зімой, калі дакучае холад. У будучыні, праз дватры гады, будзе тут свая сталовая з гарачымі абедамі для 80 чалавек, будзе святліца і санітарныя абсталяванні з гарачым душам. А пакуль што навасадаўскаму калектыву свінаводаў трэба памагчы. Гэтай дапамогі спадзяюцца яны перш за ўсё ад мясцовых гайнаўскіх улад.

**М. Нурэцкі**

## З каромыслам па ваду

Вада — непаўторнае прыроднае багацце, без якога немагчымае жыццё. Без вады не зробіш яды. Без вады нічога не вырасце. Без вады не будзе аніякай прамысловасці.



*Саня Макаль з Паўднёвага Вострава выцягвае ваду з калодзежа.*

На нашых вёсках вада бярэцца з-пад зямлі, фільтруецца натуральным грунтам. У яе складзе многа мінеральных солей, і таму вада з вясковага калодзежа смачнейшая, чым з гарадскога крана. Але пакуль што на вёсцы трэба па ваду ісці пераважна па некалькі дзесяткаў метраў, трэба выцягваць яе часам з даволі вялікай глыбіні і прынесці ў руках на свой панадворак або ў хату. Аблягчае нашэнне вады каромысла, — простая прылада, а цяжар поўных вёдзер ужо не ў руках, а на плячах чалавека.

У Паўднёвым Востраве (гміна Крынкі) у далёкім мінулым, як аб гэтым расказвалі дзяды сённяшнім нашым дзядулям, былі амаль у двухкіламетровай вёсцы толькі два калодзежы — адзін за гародамі, каля Жамайдоў, другі на даліне, каля Радалёў. Тады схадзіць па ваду да калодзежа — для многіх гаспадароў, пражываючых далей ад калодзежа, было не простай справай.

Цяпер у Паўднёвым Востраве многа калодзежаў. Адны ў лепшым стане, другія — у горшым. Вось нядаўна калодзеж каля Бярнацкіх заваліўся, патрабуе неадкладнага рамонту. Калодзежная суполка паасобных гаспадароў рыхтуецца да яго.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**

## Беларуская літаратура

Аляксандр Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### АЛЬБЕРТ ПАЎЛОВІЧ — ЧАСТКА XX

**Гумарыстычная плынь. Феміністычны камізм.** У гумарыстычнай творчасці Паўловіча знаходзім значную колькасць вершаў, у якіх праяўляюцца жаночыя матывы. Некаторыя з такіх вершаў былі ўжо разгледжаны. Сёння зоймемся толькі тымі, у якіх жанчыны з'яўляюцца адзінымі або галоўнымі героямі. Да такіх твораў належаць: „Прыйшла ў цэркву раз бабулька“, „Гаспадыніна дзежа“, „З падслуханага“, „Лепшая рада“, „Маладая гаспадынька“.

У названых вершах аўтар высмейвае такія рысы жанчын, як наіўная хітрасць, неахайнасць, лянота, гаварлівасць.

З высмейваннем наіўнай хітрасці сутыкаемся ў вершах „Прыйшла ў цэркву раз бабулька“ і „Лепшая рада“. Высмейванне мае ў гэтых творах лагодны, бяскрыўдны характар. У вершы „Прыйшла ў цэркву раз бабулька“ выведзена старэнькая жанчына, якая ў царкве ставіць адну свечку пераможцы чорта святому Мікіту, а другую свечку чорту. Цікавыя матывы, якімі абасноўвае старая свой пастулак:

*— Што ты, — кажуць, — робіш баба: то ж нячыста сіла!*
*Абярнуўшыся, так кажа: — Не судзіце людзі,*
*З нас ніхто не знае добра, дзе па смерці будзе:*
*Ці у небе, ці ў пекле скажуць векаваці.*
*Мець прыяцеля трэ ўсюды, каб мог нам спрыяці.*

Несумненна, гэты апартуністычны практыцызм, імкненне прыслужыцца і вашым і нашым, мысленне аб пазагробным жыцці ў небе або ў пекле ў даным вершы сапраўды камічныя. Цяжка аднак тут гаварыць аб антыфеміністычным настроі. Старая бабка смешная, але ні ў якім выпадку не ненавісная ні пісьменніку, ні чытачу, наадварот, сваёй наіўнай хітрасцю выклікае ў нас сімпатыю.

З іншай катэгорыяй наіўнай хітрасці маем дачыненне ў вершы „Лепшая рада“. У гэтым творы паказана жанчына, якая выслухоўвае настаўніка аб тым, што яе сын хуліганіць страшэнна ў школе, не згаджаецца з настаўнікам. Калі той раіць зрабіць сыну разговую „лазню“, кабета мае на гэта свой пункт гледжання. Раіць яна, каб настаўнік збіў не яе сына Лук'яна, а нейкага іншага хлопца. Паводле жанчыны, яе Лук'ян назіраючы гэтую сцэну, напэўна зменіць свае паводзіны. Несумненна, хітра і наіўна адначасова.

*— Не, панок, нашто?! Не трэба*
*З ім нам мардавацца.*
*Ён і так шмат памякчэе,*
*Будзе лепш старацца,*
*Калі пан замест Лук'яна*
*Ды хлопца другога*
*Лазой зрэзаў, дык тады б той*
*Прысмірэў бы многа.*

У гэтым вершы так, як і ў папярэднім, не выступае сатырычнае высмейванне. Хутчэй маем тут дачыненне з дабрадушнай іроніяй, чым са злаславым сарказмам.

Ужо было сказана, што Паўловіч высмейвае ў сваіх феміністычных творах, між іншым, неахайнасць. Гэту праблему закранае ён у вершы „Гаспадыніна дзежа“.

*Што ў іншай хлеў чысцейшы, як у Юлькі хата;*
*Што начынне — лыжкі, міскі ў палец абкарэлі;*
*Як зямля — і стол і лаўка гэтак учарнелі;*
*Страшна глянуць на бялізну, а не то што стыдна;*
*Дзежка цеста так заросшы, што і дна не відна.*

Вось гэта дзежка і з'яўляецца прадметам, пры дапамозе якога аўтар дэманструе неахайніцу Юлю. Высмейванне тут аднак не вядзецца непасрэдна. Аўтар уводзіць у верш двух краўцоў, пры дапамозе якіх распраўляецца з жанчынай. Краўцы, хочучы закпіць з гаспадыні, пачынаюць спрэчку. Адзін з іх гаворыць, што дзежа зроблена з дрэва, другі, што яна злеплена з цеста. Гаспадыня, улучыўшы момант, калі адзін з краўцоў выйшаў з хаты, не заўважаючы ўсёй камедыянцкай спрэчкі, раіць аднаму з краўцоў смела закладацца і даказаць, што дзежа сапраўды драўляная, бо яна, вышаўшы замуж, памятае, што на дзежы было яшчэ добра відаць абручы, якія зараз поўнасцю абраслі цестам.

У адрозненні ад вершаў „Прыйшла ў цэркву раз бабулька“ і „Лепшая рада“, у якіх, як мы ўжо сказалі, не было ні сатырычнага высмейвання, ні антыфеміністычнага элементу, у вершы „Гаспадыніна дзежа“ выступае выразна завостраная саркастычная тэндэнцыя. І пісьменніку і чытачу цяжка глядзець з лёгкай усмешкай на Юлю, дзежка якой так зарасла цестам, што ў яе „ледзь кулак адзін пралезе“. Зразумела, што выступае тут гіпербалічная завостранасць, але яе паяўленне звязана з выразнымі адмоўнымі адносінамі пісьменніка да гераіні.



 

